# Судовы марафон Сямёна Домаша

*Дэпутат С.Домаш збіраецца адсудзіць у «Народнай газеты» і «Гродзенскай праўды» 500 мільёнаў рублёў*

Сёння, 14 студзеня, член прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га скліканні Сямён Домаш падае ў Савецкі райсуд сталіцы ўжо другі іск аб абароне гонару і годнасці.

Першы іск дэпутат адрасаваў да «Народнай газеты», дзе 17 снежня з'явіўся груба спрацаваны пасквіль «Зигзаги Семена Домаша». Аўтар, які схаваўся за псеўданімам «Александр Донской», абвінавачвае былога старшыню Гродзенскага аблвыканкама ў злоўжыванні службовым становішчам і ў значных парушэннях заканадаўства. Сам С.Домаш ацэньвае публікацыю як яўную хлусню, што зневажае яго гонар і годнасць. Таму праз Савецкі райсуд Мінска дэпутат патрабуе ў «Народнай газеты» кампенсацыі маральнага ўрону ў памеры 300 мільёнаў рублёў.

Сённяшні іск С.Домаш прад'яўляе да «Гродзенскай праўды». Прычына — тыя самыя «Зигзаги Семена Домаша», якія абласная газета перадрукавала. Зважаючы на меншы наклад «Гродзенскай праўды», меншай сумай С.Домаш ацаніў і маральны ўрон — у 200 мільёнаў рублёў.

Але судовы марафон Сямёна Домаша на гэтым не спыніцца. Як толькі суд установіць сапраўднае імя «Александра Донского» (а яно нібыта вядомае апальнаму губернатару), дэпутат зробіць усё магчымае, каб прыцягнуць аўтара да крымінальнай адказнасці за паклёп.

Сямён Домаш дапускае, што той артыкул быў напісаны «пад заказ». Заказны характар публікацыі ўскосна пацвярджаецца тым, што перад нейкім «Александром Донским» з незвычайнай лёгкасцю адчыняліся ўсе дзверы ў самых высокіх уладных кабінетах — нават у Гродзенскім УКДБ, куды праўвацца амаль немагчыма нават «чэсным» журналістам.

Відаць, менавіта ў такім разрэзе — як заказны паклёп — трэба ацэньваць яшчэ адну публікацыю «Народнай газеты» — «Из истории строительства домов и дач», падпісаную «Сергеем Петровским», які ўзяў на прыцэл яшчэ аднаго дэпутата — гродзенца Мечыслава Гіруця (ён у Вярхоўным Савеце кіраваў фракцыяй аграрыяў), Праўда, у адрозненне ад свайго калегі Мечыслаў Івановіч у суд пакуль не звяртаецца.

**Раман ЮРЭВІЧ**

ПРОТЕСТ

# Писатели России в защиту Славомира Адамовича

**Всемирная организация писателей**
**Русский ПЕН-центр**
***В Витебский областной суд***

От имени и по поручению писателей Русского ПЕН-центра, международной организации по защите прав писателей и журналистов, выражаем свой протест по поводу суда над поэтом Славомиром Адамовичем, который вот уже почти год содержится в заключении КГБ Беларуси. Прежде чем писать сей протест, мы ознакомились с произведением, за которое судят поэта.

Мы считаем, что в стихотворении «Убей президента» нет призыва к конкретному действию против конкретного лица и все стихотворение написано в стиле гротеска, поэтического перформанса. В конце 20-го столетия пора наконец понять, что художественное слово, поэтический образ не может быть поводом для преследования писателя или поэта.

В связи с этим мы полагаем, что нарушено одно из основных прав и свобод человека — право на свободу слова и самовыражения. Мы категорически настаиваем на прекращении уголовного дела против Славомира Адамовича и считаем, что этот позорный процесс полностью дискредитирует судебную власть Беларуси перед лицом международной общественности. Мы сделаем все, чтобы предать международной огласке дело суда над поэтом, и будем путем обращения к международной общественности и организациям добиваться его освобождения и прекращения дела.

С уважением

**Дмитрий ЛИХАЧЕВ**
**Андрей БИТОВ**
**Андрей ВОЗНЕСЕНСКИЙ**
**Лев РАЗГОН**
**Белла АХМАДУЛИНА**
**Татьяна БЕК**
**Булат ОКУДЖАВА**
**Фазиль ИСКАНДЕР**
**Анатолий ПРИСТАВКИН**
**Александр ТКАЧЕНКО**
**Юнна МОРИЦ**
**Константин КЕДРОВ**
**Ядгар ОБИД**
**Аркадий ВАКСБЕРГ**

# Сярод дэпутатаў Санкт-Пецярбург не менш папулярны, чым Страсбург

**На мінулым тыдні дэпутаты палаты прадстаўнікоў лукашэнкаўскага нацыянальнага сходу амаль цэлы парламенцкі дзень патрацілі на зацверджанне складу дэлегацыяў у розныя міжнародныя органы, але з пастаўленай задачай так і не справіліся. Яны зацвердзілі толькі дзве дэлегацыі, а трэба было абраць удвая больш.**

Першай па чарзе ішла дэлегацыя дэпутатаў, якія будуць рэгулярна наязджаць у Страсбург, дзе знаходзіцца Савет Еўропы — своеасаблівы штаб Еўрапейскага супольніцтва, у які парламенты еўрапейскіх краін дэлегуюць сваіх прадстаўнікоў. Беларусь, як вядома, у СЕ не прынятая. Нам даводзіцца карыстацца статусам пастаяннага запрошанага назіральніка, прычым і з гэтай ніжэйшай прыступкі з прычыны апошняга рэферэндуму нас могуць папрасіць. Каб не застацца зусім па-за бортам, трэба да 26 студзеня адправіць у Страсбург заяўку на ўдзел нашай дэлегацыі ў сесіях. Менавіта на гэтую прычыну націскаў Юрый Малумаў, калі агітаваў за хутчэйшае адабрэнне складу дэлегацыі. Як потым высветлілася, сам жа Малумаў і стаў кіраўніком групы, што нацэлілася на Страсбург.

Цікава, што зусім не кіраўнік міжнароднай камісіі (як гэта было ў Вярхоўным Савеце), а цяперашні шэф заканадаўчай камісіі парламента Малумаў лічыцца ў лукашэнкаўскай ніжняй палаце галоўным профі па супрацоўніцтве з Еўропай. Відаць, гэтае рэнамэ ён набыў, з'ездзіўшы некалькі разоў у Страсбург у мінулым годзе на чале дэлегацыі Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Між тым тую дэлегацыю ён узначаліў не дзякуючы прафесійнай падрыхтоўцы (ён былы міліцыянт-аператыўнік), не таму, што ведае замежныя мовы (нават па-беларуску Малумаў ніколі не выказваўся), а проста дзякуючы былой пасадзе намесніка спікера ВС. Карацей кажучы, «яго там ведаюць», палічылі дэпутаты. А разам з ім зацвердзілі ў склад дэлегацыі настаўніка з Чавусаў Генадзя Аляксеенку, былога кадэбіста Леаніда Рачкова, урача з Жодзіна Ніну Целябук і гаспадарчага кіраўніка з Горак Вячаслава Шаршунова. Дарэчы, прапанаваўшы гэтыя кандыдатуры, шэф міжнароднай камісіі Л.Рачкоў узгадаў пра ўмову Савета Еўропы: каб у дэлегацыі былі прадстаўнікі розных партый. «Гэтыя крытэрыі намі таксама вытрыманыя», — бадзёра адрапартаваў Л.Рачкоў, пэўна, маючы на ўвазе, што дэпутат Аляксеенка прадстаўляе партыю камуністаў, Шаршунова можна лічыць аграрыем, а астатнія аказаліся ў цэнтрыстах. У рэшце рэшт дэлегацыю зацвердзілі без асаблівых праблемаў.

Цалкам аказалася ўкамплектаваная і група беларускіх дэпутатаў, якія будуць працаваць у міжпарламенцкай асамблеі краін СНД. Гэтая арганізацыя, што размясцілася ў Санкт-Пецярбургу, займаецца падрыхтоўкай розных інтэграцыйных дакументаў, разлічаных на 11 краін былога Саюза. Інтэграцыя былых саюзных рэспублік, як вядома, ідзе марудна, але не па віне парламентарыяў. Яны з відавочнай зацікаўленасцю рэгулярна наведваюць цудоўны горад на Няве, беручы на гэта немалыя камандзіровачныя. Папулярнасцю Санкт-Пецярбург карыстаецца не меншай, чым Страсбург. Замежных моваў ведаць не трэба, кругом сябры, усе за супрацоўніцтва. На гэты раз дэлегацыя налічвае амаль 20 чалавек. Беларусь у Санкт-Пецярбургу будуць прадстаўляць такія вядомыя спецыялісты па міжпарламенцкіх сувязях, як Марыя Вінакурава, Марыя Худая, Іван Пашкевіч, Анатоль Кузьма, Раман Ананьеў ды іншыя. Сярод іх, заўважым, няма аніводнага, хто б не вызначыўся сваёй асаблівай адданасцю прэзідэнту ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання. Карацей, можна спадзявацца, што сумеснымі намаганнямі горад Пятра пастулова набудзе рысы беларускай сталіцы.

А вось дзвюм другім дэлегацыям, у так званыя «двойку» (ў парламенцкі сход Супольнасці Беларусі і Расіі) і ў «чацвёрку» (міжпарламенцкі камітэт Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі), пашанцавала менш. Калі старшыня міжнароднай камісіі Леанід Рачкоў абвясціў спісы гэтых груп, некаторыя дэпутаты, быццам забыўшыся, дзе знаходзяцца, пачалі абурацца. Дэпутат Хрол нават прывёў свае асабістыя падлікі — колькі чалавек адначасова трапілі ў некалькі дэлегацый. Згодна з Хролам, чацвёра фігуруюць адразу ў трох дэлегацыях, а шасцёра — у дзвюх. А дэпутат Касцян налічыў яшчэ больш «двоечнікаў»: Рачкоў, Малафееў, Вінакурава, Гарбуноў, Грыгор'еў, Козыр, Пашкевіч і Шпілеўскі. Найбольшыя прэтэнзіі намеснік старшыні міжнароднай камісіі Касцян адрасаваў свайму шэфу Рачкову: «Гэта ж нельга, каб адзін і той жа быў паўсюль», — крычаў Касцян у мікрафон, маючы на ўвазе, што Рачкоў будзе ездзіць і ў Страсбург на Савет Еўропы, і па сталіцах «чацвёркі». «Няўжо вы мне не давяраеце?» — нарэшце сарваўся Касцян на рытарычнае пытанне, але ягоны «дэпутацкі запыт» усё ж застаўся без увагі — прозвішча намесніка кіраўніка міжнароднай камісіі ні ў адной з дэлегацыяў пакуль не з'явілася.

Дарэчы, як падчас любой шчырай размовы, у дыскусіі аб тым, хто заслужыў, а хто не мае права на камандзіроўкі ў замежжа, прагучала шмат сапраўдных «перлаў», вартых увагі журналістаў. Але на ўсе проста не хопіць часу і газетнай плошчы. Таму вызначу рэпліку, якая, на мой погляд, можа лічыцца «хітом сезона». Падчас дыскусіі аб тым, ці трэба Марыі Вінакуравай, па прафесіі эканамісту, прэтэндаваць на ўдзел у прававвой камісіі міжпарламенцкай асамблеі СНД, старшыня ніжняй палаты Анатоль Малафееў заступіўся за дэпутатку: *«Яна зможа замяніцца на іншую камісію»*, — сказаў спікер, а Марыю Міхайлаўну асабіста супакоіў: *«Не бойцеся, там ніхто не будзе нікога гвалтаваць...»*

Як кажуць, на гэтай аптымістычнай ноце дыскусія была спыненая да лепшых часоў, калі спісы дзвюх незацверджаных дэлегацый скарэктуюць у больш прымальны бок. Маецца на ўвазе — у бок выкідання з іх «двоечнікаў» і «троечнікаў».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

ДЕНЬГИ

# Новый коридор – старые проблемы

*Доллар уже дороже 30.000 рублей*

**Судьба официального курса белорусского рубля была решена на прошлой неделе совместным постановлением правительства и Национального банка. Согласно данному документу, с 1 января 1997 года (т.е. «задним числом») устанавливаются валютный коридор в пределах 15.000—21.000 рублей за 1 доллар США и соответствующие обменные курсы других иностранных валют.**

В связи с этим нелишне заметить, что вчера, 13 января (а постановление датировано 8 января) котировки доллара на внебиржевом межбанковском рынке вплотную превысили тридцать тысяч, достигнув уровня в 32.800—34.000 рублей.

Положения упомянутого документа выглядят весьма нереальными в нынешней ситуации как на валютном рынке, так и в экономике в целом. Так, например, на внебиржевом валютном рынке по операциям купли-продажи наличной и безналичной валюты этим постановлением вводится повышающий коэффициент в размере 1.05. Если даже взять наивысший предел коридора, то при таком коэффициенте курс не должен превысить 22.050 рублей (21.000x1.05=22.050). Как видно, устанавливаемые ограничения далеки от реального рынка. А это означает не что иное, как очередной толчок к развитию «черного рынка».

Что же касается наличной валюты, то ограничения научились обходить с помощью пересчета долларов и рублей через третью валюту. Однако 3 января появилась телеграмма Нацбанка, запрещающая эту практику. Впрочем, по мнению некоторых специалистов, из-за весьма несвязного текста документа осталась лазейка: подобные операции можно проводить вполне легально, но через валюты, официальные котировки которых не устанавливаются Нацбанком. Поэтому не стоит удивляться, увидев в пунктах курсы всяких греческих драхм или монгольских тугриков.

Документом также предусматривается принять меры по увеличению резервов в иностранной валюте. Единственное, что не предусматривается, так самая малость — как это сделать. Скорее всего, как и раньше. Нацбанк будет сам для себя устанавливать завышенный курс скупки наличной валюты.

Что же касается основного вопроса — заниженного официального курса инвалюты, из-за которого экспортеры несут убытки, а доступ к свободно конвертируемой валюте ограничен, то здесь нет никаких особых изменений.

Фактически документ не содержит ничего нового и кардинальных перемен как для валютного рынка, так и для экономики в целом не несет. Он только показывает, что полностью зависимый от президента Нацбанк не в состоянии проводить политику либерализации, о которой главный банк страны в свое время объявил и на которую многие надеялись.

**Алесь САДОВСКИЙ**

РЫНОК

# Кто привезет сигареты – большой секрет

**В конце прошлого года министерство торговли объявило о приеме документов для участия в очередном тендере на получение лицензии на право импортирования сигарет на территорию Беларуси. Срок подачи заявок, истекавший 15 января, продлен.**

Не секрет, что отечественный производитель — Гродненская табачная фабрика — не справляется с насыщением рынка (аппетиты белорусских курильщиков значительно превышают мощность фабрики). Поэтому импорт сигарет в Беларусь — объективная, необходимая реальность. Однако правительство решило взять под контроль столь лакомый кусок импортного пирога и регулировать ввоз сигарет.

В этой связи в начале прошлого года впервые был проведен подобный тендер. По его итогам было выбрано 5 официальных импортеров сигарет в Беларусь: ООО «Висанта», СП «Т и Б», ООО «Белтабакконтракт», ЗАО «Белагроинторг» и ИП «Golden Circle Ltd». Лицензии на импорт выдавались лишь на 1 год (это был так называемый «пилотный» проект). Теперь необходимо еще раз выиграть конкурс, чтобы продлить действие уже выданных разрешений.

Кроме того, по информации минторга, по итогам прошедшего года было решено расширить круг официальных импортеров для более полного удовлетворения белорусских курильщиков, и заявки на участие во втором тендере принимаются от всех желающих. Ибо, как видно из повседневного опыта, ассортимент самых лучших магазинов отстает от ассортимента у наиболее активных бабушек, особенно на Комаровском рынке.

К настоящему моменту о своем желании принять участие в конкурсе заявили лишь 10 компаний, 5 из которых — вышеперечисленные обладатели лицензий. Таким образом, очевиден факт низкой активности наших компаний в направлении импорта (по крайней мере, официального) сигарет в Беларусь.

Вероятно, именно в связи с низкой активностью участников тендера минторг принял решение о продлении срока принятия заявок, хотя первоначально предусматривалось прекратить прием документов 15 января 1997 г. Кроме того, как стало известно газете СВАБОДА из неофициальных источников, еще не разработаны нормативные документы, необходимые для проведения данного тендера, то есть не определено, по каким критериям будет осуществляться отбор.

Поэтому, вероятно, мы еще не скоро услышим имена «счастливчиков», которые займутся импортом сигарет в Беларусь. В настоящий же момент секретной информацией оказался даже перечень фирм, уже подавших заявки для участия в тендере. Так что сигарет в ближайшее время больше не станет. А чем меньше товара, как известно, — тем выше цены.

**Вероника СТРОЕВА**

СВАБОДА
14 студзеня 1997 г., № 3

# Зянон Пазьняк жадае суайчыннікам здароўя, цярпення і аптымізму

**— Такім чынам, Зянон Станіслававіч, Вы зноў у Варшаве...**

— Я прыехаў на даволі кароткі тэрмін — на два тыдні. Вялікая частка працы ў Амерыцы ўжо зробленая. Калі казаць коратка, то намі ставілася задача, каб Амерыка павярнулася тварам да Беларусі. І вынікі ёсць. Гэта відаць па рэакцыі Злучаных Штатаў і міжнароднай супольнасці на падзеі ў Беларусі, па тым, што Захад асуджае беларускі дыктатарскі рэжым і падтрымлівае дэмакратычныя сілы.

Цяпер неабходна весці працу ва Усходняй Еўропе. Вельмі важна арганізаваць каардынацыю дэмакратычных сілаў у Польшчы, Літве, на Украіне, бо тое, што адбываецца ў Беларусі, закранае інтарэсы ўсіх краін Усходняй Еўропы. Палітыка Масквы ў гэтай частцы Еўропы відавочная: яна накіраваная супраць NATO і на пашырэнне Расійскай імперыі. Гэта ўсе разумеюць — і таму павінны быць пэўныя арганізацыйныя формы, якія процідзейнічалі б расійскаму ўплыву і спрыялі развіццю дэмакратыі ў Беларусі.

Я маю на ўвазе, што павінны быць праведзеныя кансультацыі і створаныя адпаведныя органы, якія будуць каардынаваць працу па некалькіх накірунках: вывучэнне і аналіз сітуацыі на Беларусі, інтэлектуальнае ўзаемадзеянне, злучэнне эліт і г.д. Прычым вынікі такога аналізу павінны быць вядомыя на Захадзе, каб не было неадэкватных рэакцый на падзеі. На Захадзе людзі часам могуць проста не разабрацца ў тым, што адбываецца ва Усходняй Еўропе, — і з гэтым я не раз сутыкаўся. Усе гэтыя дзевяць месяцаў на эміграцыі я ставіў перад сабой задачу, каб людзі элементарна зразумелі, што такое Беларусь і якія там ідуць працэсы. І вось падзеі, звязаныя з апошнім рэферэндумам, паказалі, што вынік ёсць. Захад правільна зрэагаваў.

**— Значыць, структуры, якія Вы маеце намер стварыць, будуць працаваць на Захад?**

— Не толькі. Трэба праводзіць адпаведныя кансультацыі з Беларускім народным фронтам і іншымі дэмакратычнымі сіламі, ладзіць канферэнцыі, аказваць псіхалагічную дапамогу. Яшчэ адзін аспект дзейнасці гэтых структур — дапамога грамадскім, недзяржаўным арганізацыям і свабоднаму друку ў Беларусі. І, нарэшце, — гэта канкрэтная дапамога канкрэтным людзям, таму што кожны акупацыйны рэжым заўсёды стараецца знішчыць асоб, якія маюць значэнне для нацыянальнай культуры, уваходзяць у нацыянальную эліту. Знішчаюць або фізічна, або садзячы ў турму, або ствараючы ўмовы, якія робяць немагчымай духоўную, інтэлектуальную дзейнасць. Гэта мы бачым у Беларусі. Тое, што паслугачы рэжыму склалі спіс пісьменнікаў, якіх нельга друкаваць, і што першым у гэтым спісе стаіць Васіль Быкаў, — гэта сведчанне акупацыйнай палітыкі генацыду.

Справа міжнародных арганізацый — процістаяць гэтаму. Задачай з'яўляецца не толькі абарона дэмакратычнай ідэі і правоў чалавека ў Беларусі, але і абарона канкрэтных асоб, якіх рэжым намагаецца зняважыць, апляваць, знішчыць. Гэта грунтоўная работа, якая ўжо праводзіцца і да якой яшчэ трэба прыкласці вялікія намаганні.

**— У час папярэдняга пабыту ў Варшаве Вы арганізавалі выпуск бюлетэня «Беларускія ведамасці». Што з ім будзе далей?**

— Я планую шырэй наладзіць выдавецкую дзейнасць. У бюлетэнь «Беларускія ведамасці» на польскай мове матэрыялы дасылаліся з Нью-Йорка. Цяпер рыхтуецца пяты выпуск, не толькі па-польску, але і па-беларуску — ён будзе распаўсюджвацца таксама на Беларусі. Ёсць задума выпускаць і іншы часопіс, але гэта ў далейшай перспектыве.

**— З якімі беларускімі палітыкамі Вы падтрымліваеце кантакты? Ці сустракаліся Вы з Сямёнам Шарэцкім падчас яго апошняга візіту ў Варшаву на мінулым тыдні?**

— Дэпутаты Сейма казалі мне, што тут быў Шарэцкі, і я чытаў ягонае інтэрв'ю газеце *Życie*, але самога не бачыў. А з польскіх палітыкаў я спатыкаўся толькі з прадстаўнікамі правіцы — у асноўным гэта прадстаўнікі партый, што ўваходзяць у блок *Akcja Wyborcza Solidarność*. Якраз з гэтым блокам я маю на мэце супрацоўнічаць. З беларускіх арганізацый тут стаіць на пазіцыях адраджэння толькі «Беларускі саюз», які ўзначальвае Алег Латышонак, і я маю з ім добрыя кантакты.

**— Але з Варшавы Вы — зноў у Нью-Йорк?**

— Так, ёсць задачы і ў Нью-Йорку. Паколькі Беларусь знаходзіцца ў сферы ўплыву расійскай палітыкі, то на Захадзе можа паўстаць пытанне выбару: альбо Беларусь — альбо Расія. І Захад павінен быць інфармацыйна і аналітычна падрыхтаваны да прыняцця рашэння. Але я ўжо не сумняваюся, што сёння ні Амерыка, ні Еўропа не стануць вырашаць палітычныя праблемы, звязаныя з пашырэннем *NATO*, за кошт беларускага народа — не той час.

Калі я выехаў вясной з Беларусі ў Польшчу і Чэхію, то ўбачыў, што Беларусь як суб'ект міжнароднай палітыкі практычна не існавала — Беларусь ужо былі пахавалі, паставілі крыж. Але дзейнасць Народнага фронта, грамадзянскія акцыі пратэсту, масавыя маніфестацыі, бойкі на вуліцах паміж дэманстрантамі і міліцыяй — усё гэта змяніла сітуацыю. Цяпер ужо на Захадзе ёсць людзі, якія прафесійна валодаюць сітуацыяй у Беларусі. Калі ў Кангрэсе Злучаных Штатаў быў брыфінг па сітуацыі ў Беларусі, дык зала была перапоўненая, не хапала месцаў. Я выступаў з дакладам, і палітыкі, якія там былі, задавалі сур'ёзныя, праблемныя пытанні — не проста «А чаму ў вас народ прагаласаваў за Лукашэнку?..» ці нешта такое.

Цяпер на Захадзе падвяргаюцца сумненню і перагляду адносіны да Расіі як да дэмакратычнай дзяржавы. У прыватнасці, кангрэсмен Хоўк заявіў, што перад амерыканскай палітыкай цяпер стаіць задача дэрусіфікацыі Вашынгтона. Разам з тым шмат хто ў Амерыцы ідэалістычна глядзіць на Расію, хоць сучасная сітуацыя і тэндэнцыі, якія там праяўляюцца, далёкія ад ідэалу.

**— Калі ўжо гаворка пра Расію, то як будуць развівацца, на Вашую думку, беларуска-расійскія ўзаемадачыненні?**

— Натуральна, пэўныя сілы ў Маскве будуць дамагацца далучэння Беларусі да Расіі. Масква выразна інтэнсіфікавала намаганні на беларускім напрамку, падтрымала дзяржаўны пераварот у Беларусі і ўзяла непасрэдны ўдзел у гэтым перавароце. Практычна ўсе палітычныя сілы ў Расіі ўхапіліся за ідэю ўзяць рэванш на Беларусі за паразу ў Чачні.

У Лукашэнкі няма іншага выйсця, як пнуцца ў Расію: эканоміка ў поўным развале. Яны яе спецыяльна развалілі, каб расійскаму капіталу было лягчэй забраць Беларусь. У Лукашэнкі няма ніякіх перспектываў і ніякіх сваіх ідэяў. Таму яму нічога не застаецца, як эксплуатаваць чужую ідэю, расійскую.

Але вынікі гэтага могуць атрымацца самыя нечаканыя — як з аднаго боку, так і з другога. У Расіі вельмі многія ўжо зразумелі, што Лукашэнка прэцца на маскоўскі пасад. Тое, пра што яшчэ два гады таму гаварылі прадстаўнікі БНФ, — сёння стала рэальнасцю. Лукашэнка добры для расійцаў тым, што ніхто так апантана не прадае Беларусь, як ён. Колькі ні ездзілі нашыя лібералы-апазіцыянеры ў Маскву, колькі ні прасілі: «Купіце нас!» — іх не купілі, бо Лукашэнка таннейшы. Але, з другога боку, Лукашэнка расійцам не падабаецца — сваім нахабным імкненнем на трон, сваёй грубасцю, непрадказальнасцю. Ён кампраметуе іх, іхнюю палітыку, высвятляе іх патаемныя памкненні.

**— Зянон Станіслававіч, раз Вы ўжо наблізіліся да Беларусі, што Вы хацелі б пажадаць сваім суайчыннікам?**

— Я хацеў бы пажадаць у новым годзе, які мне не давялося сустрэць на Бацькаўшчыне, перш за ўсё здароўя і аптымізму. У сувязі з цяперашняй сітуацыяй на Беларусі ў многіх сёння песімістычны настрой. Але няма падстаў для асаблівага песімізму. Проста патрэбныя цярпенне і разуменне таго, што адбываецца. Так што — аптымізму, цярпення, разумення і здароўя.

*Гутарыў*
**Віктар ВАЛАДАШЧУК**



# Беларускі народны фронт эканамічнай барацьбы

**Беларускі народны фронт плануе шэраг публічных акцый пратэсту пад эканамічнымі лозунгамі.**

Першай з іх стаў пікет, які сябры Фронту правялі 9 студзеня насупраць прэзідэнцкай рэзідэнцыі, што на вул. Карла Маркса, 42. Удзельнікі пікету трымалі транспаранты з лозунгамі і заклікамі эканамічнага зместу. «Неэканамічнымі» можна было назваць хіба што славутыя словы з песні — «Прэзідэнт, ідзі дамоў!».

Як сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ адзін з кіраўнікоў БНФ Юрась Беленькі, у выніку імклівага росту цэнаў пасля Новага году ў штаб-кватэру БНФ пачалі тэлефанаваць людзі, прапануючы выказаць пратэст. Нават былыя прыхільнікі Лукашэнкі, якія спадзяваліся на рэферэндум, адчулі сябе падманутымі. Вось людзі і выйшлі да будынка прэзідэнцкай адміністрацыі, патрабуючы спыніць рост цэнаў, беспрацоўе і агульнае пагаршэнне эканамічнай сітуацыі. *«У чарговы раз стала відавочнай хлусня ўладаў, якія называюць сябе абаронцамі народнага дабрабыту,* — сказаў Ю.Беленькі. — *Адбываецца тое, што даўно прадбачылі эканамісты БНФ. Палітыка прэзідэнта можа прывесці толькі да пагаршэння эканамічнай сітуацыі, і гэта ўжо немагчыма схаваць ні за прапагандысцкімі кампаніямі, ні за тэлевізійным шоў. Эканамічныя паказчыкі гавораць самі за сябе. Крызіс паглыбляецца. І ніякіх радыкальных пераменаў не прадбачыцца. Як эканаміст, я лічу, што прэзідэнт не зрабіў ніводнага рэальнага кроку да стабілізацыі ў эканоміцы».*

Нягледзячы на тое, што Сяргей Антончык і Юрась Беленькі, як таго патрабуе закон, падалі заяўку ў гарвыканкам на правядзенне пікету, міліцыя пра гэта «нічога не ведала». На ўсялякі выпадак ахоўнікі парадку склалі пратакол на Юрася Беленькага «за арганізацыю пікета».

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Пракаповіч просіць дапамогі БНФ і камуністаў

**Першы намеснік прэм'ер-міністра Пётр Пракаповіч, які нядаўна быў прызначаны на гэтую пасаду, сваю бурную дзейнасць пачаў з таго, што афіцыйна звярнуўся да апазіцыі па дапамогу.**

У інтэрв'ю газеце «Вечерний Брест» П.Пракаповіч сказаў:

— Калі мы вырашалі пытанне аб свабоднай эканамічнай зоне, апазіцыя, напрыклад, магла прапанаваць лепшы варыянт. Тым больш, што размова ідзе пра прыцягненне замежных інвестыцый. Бо ў апазіцыі сёння з многімі замежнымі дзяржавамі лепшыя сувязі, чым у афіцыйных уладаў. Таму мы заклікаем апазіцыю: калі ласка, вы ж грамадзяне Беларусі, вы ж нашыя людзі — дык дапамажыце. Калі, скажам, вы апазіцыя БНФ і вас падтрымліваюць у Амерыцы, дык чаму вы не зробіце першы рэальны крок па прыцягненні інвестыцый з Амерыкі? Хаця б для стварэння тут прыватных прадпрыемстваў для членаў БНФ.

А камуністаў (ПКБ) першы намеснік прэм'ер-міністра папрасіў накіравацца на ўсход — да Зюганава. Нагадаў, што ў беларускіх камуністаў-апазіцыянераў вельмі добрыя адносіны з кампартыяй Расіі, якая там мае вялікі ўплыў. Таму Пракаповіч таксама просіць Новікава з Калякіным: «Калі ласка, прыцягніце расійскія інвестыцыі, стварыце калектыўныя прадпрыемствы... і дакажыце, што яны лепш працуюць, чым БНФаўскія і дзяржаўныя».

Са свайго боку, адзначыў Пракаповіч, «улады будуць весці з кіраўніцтвам Расіі перамовы аб дапамозе па стабілізацыі беларускай валюты».

А ўрэшце першы віцэ-прэм'ер выдаў цікавейшую інфармацыю. Ён як адзін з аўтарытэтных будаўнікоў краіны з гонарам заявіў, што ў 1996 годзе ў Беларусі ў эксплуатацыю ўведзена жылля ў 1,65 раза болей, чым у папярэднім годзе, а «такіх тэмпаў нават не ведае і сусветная практыка».

Цікава, а што на гэты конт думаюць нашыя бескватэрныя грамадзяне, якія чакаюць жылля па 15—20 гадоў? Відавочна адно: сусветная практыка такіх чэргаў на жыллё сапраўды яшчэ не ведала.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

